Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 2 (90) | Вільня, 18-га студзеня 1936 г. | Год 4-ты.

## Адкуль пагражае небясьпека?

У папярэднім нумары „Роднага Краю" мы пісалі аб магчымасьці новай сусьветнай вайны ў недалёкай будучыні. Між іншым зварочвалі ўвагу, што крыніцы гэтае небясьпекі — Саветы і Японія. Справядлівасьць нашага пагляду на справу міжнароднае палітыкі Саветаў і Японіі пацьвердзіў у сваёй прамове на пленуме Ціка СССР у мінулым тыдні савецкі прэм'ер Молатаў, прарочачы магчымасьць хуткае вайны і, зразумела, рэвалюцыі. Тое самае спатыкаем апошнімі часамі ў загранічнай прэсе розных кірункаў. Увесь сьвет, як відаць, наэлектрызаваны магчымасьцяй новае катастрофы, а апошнія дыплёматычныя ходы Саветаў у справе заключэньня саюзу з Францыяй, ды прысьпешаная акцыя па ўтварэньню саюзнага блёку паміж Турцыяй, Афганістанам, Іранам ды Іракам, пры ціхім, здаецца, падтрыманьні гэнае акцыі з боку Саветаў і Англіі, яшчэ больш пераконвае нас у слушнасьці нашых папярэдніх разважаньняў Саветы добра разумеюць, што на прыпадак вайны з Японіяй трэба перадусім забясьпечыць сябе з боку Дарданелаў, бо-ж у праціўным прыпадку Японія магла-бы сваім магутным марскім флётам заатакаваць Крым і Каўказ.

Не ўваходзячы ў разгляд таго, як могуць улажыцца міжнародныя адносіны падчас пагражаючае катастрофы, адно можна сказаць, што палажэньне Польшчы не прадстаўляецца здавальняюча, дзякуючы яе нявыгаднаму географічнаму палажэньню. На саюзьнікаў жа сваіх пакладацца зусім пэўна нельга. Урэшце трэба не забываць, што **Эўропа фактычна варочаецца да свае старое, з другой палавіны XVIII стагодзьдзя, палітыкі,** а палітыка гэная, як ведаем, нічога добрага для Польшчы не прынясла.

Праўда, Францыя заўсёды выступала ў абароне Польшчы ды баранілася супроць дапушчэньня Расеі да вырашаньня эўрапэйскіх пытаньняў, але ня трэба забываць і таго, што тая-ж самая Францыя, ня могучы ані абараніць Польшчы, ані перашкодзіць Расеі мяшацца ў унутраныя справы Эўропы, зьмяніла тактыку ды ўвайшла ў коаліцыю з Расеяй.

Пэўне, Францыя і надалей будзе зусім шчырай старонніцай Польшчы, але трэба адначасна памятаць, што палітыка залежыць ад шмат якіх варункаў, вынікае з гісторыі ды падлягае адначасна пэўным законам лёгікі

А гісторыя нам паказала, што Расея ў Эўропе — гэта Польшча ў Расеі, бо-ж іншай дарогі ў Эўропу, як цераз Польшчу, Расея ня мае. Як ведаем, у мінуўшчыне гэта прывяло да падзелу Польшчы, а што сучасныя кіраўнікі Расейскае палітыкі нічым ня розьняцца ад Кацярыны II, сьведчыць хоць бы той факт, што як толькі Саветы захацелі зьявіцца на эўрапэйскай арэне, першы іх крок быў скіраваны якраз супроць Польшчы.

Коштам ліквідацыі польскай дзяржаўнасьці Расея дайшла калісь аж да Парыжа ды заключыла саюз з Нямеччынай, а цяпер, як бачым, ізноў у сувязі з нямецка-японскім ваенным саюзам, Саветы імкнуцца да згоды з Францыяй.

Саюз Польшчы з Нямеччынай з дня 26. І. 1934 г крыху параліжуе небясьпеку для Польшчы з боку Саветаў, але гэта толькі датуль, пакуль Саветам пагражае Японія з Далёкага Усходу.

Трэба аднак не забываць, што для японскае экспансыі істнуюць дзьве магчымасьці: адна ў Азіі, а другая ў Афрыцы. Калі-б Японіі ня ўдалося дапяць свае мэты ў Азіі, то бязумоўна яна перакінецца ў Афрыку, дзе, згодна з заявай італьянскага віцэ-міністра загранічных справаў Лесона з дня 19. X. 1934 г. ў Нэапалі, Японцы маюць усе шансы да пашырэньня сваей імпэрыі.

З хвілінай-жа, калі Саветы пераканаюцца, што з Усходу ім нічога не пагражае, яны бязумоўна ізноў жа зьвернуць свае вочы на Захад, г. зн., на Польшчу. Пётр Вялікі, Кацярына II ды пазьнейшыя цары Расеі зусім выразна вызначылі шлях, па якім павінна ісьці Расея. Сучасныя ўладары Крэмля здаецца плян гэты прынялі без засьцярогаў і дзеля гэтага маюць перад сабою тры кірункі: выхад праз Азію на Ціхі акіян, праз Дарданелы—на Поўдзень і Міжземнае мора і—на Захад —цераз Польшчу. Калі прыдзе чарга на рэалізацыю таго ці іншага кірунку, сказаць трудна, аднак Польшча заўсёды павінна памятаць, што яе як усходні, так і заходні суседы ня сьпяць у шапку. А для таго, каб мець магчымасьць даваць адпор вонкаваму ворагу, трэба перадусім сцэмэнтавацца ўнутрана. Пакуль яшчэ варункі спрыяюць, трэба было-б кіраўнікам польскае дзяржаўнае палітыкі і заняцца ўпарадкаваньнем сваіх унутраных справаў, ды ня толькі гаспадарчых, але таксама і палітычных, а да такіх належаць перадусім: украінскае і беларускае пытаньне. А справы-ж гэныя, як ведаем, далёка ня вырашана, асабліва-ж справа беларуская, якая, як ведама, займае бадай што найдаўжэйшую і найнебясьпечнейшую ўсходнюю граніцу Польшчы.

*Эра.*

## З царкоўнага жыцьця

Памёршы нядаўна прат. а І. Краскоўскі быў сябрам Віленскай Духоўнай Кансысторыі і адначасна сьвяшчэньнікам віленскага прыходу на могілках. Са сьмерцяй прат. Краскоўскага засталося вакантным месца сябры Кансысторыі і месца сьвяшчэньніка прыходу на могілках.

Вось-жа вышэйшая духоўная ўлада пры назначэньні новага сябры Кансысторыі мае магчымасьць хоць раз урэшце паказаць свае прыхільныя адносіны да слушных беларускіх дамаганьняў і павінна назначыць сябрам Кансысторыі *абавязкава* сьвяшчэньніка *беларуса*, якога знайсьці вельмі лёгка, абы толькі была добрая воля з боку вышэйшае духоўнае ўлады. Адначасна з пераводам прат. а. Н. Кульчыцкага з прыходу на Пагулянцы ў прыход на могілкі застанецца вакантным месца сьвяшчэньніка на Пагулянцы, куды, па нашай думцы, вышэйшая духоўная ўлада павінна назначыць прат. В. Беляева, які, як нам перадаюць, на гэта ня будзе крыўдаваць, бо-ж дасюль быў толькі другім сьвяшчэньнікам у Мікалаеўскай царкве, а на яго месца у Мікалаеўскую царкву, трэба *назначыць* аднаго з маладых *сьвяшчэньнікаў беларусаў*, якія маюць вышэйшую багаслоўскую асьвету і сядзяць бяз працы, або, у лепшым выпадку часова замяшчаюць дзе-небудзь сьвяшчэньніка. Нованазначаны у Мікалаеўскі прыход сьвяшчэньнік-беларус мог-бы адпраўляць набажэнства ў Пятніцкай царкве, якая адначасна з'яўляецца і школьнаю царквою Віл. Беларускай Гімназіі.

Такое вырашэньне справы было-б справядлівым і нікога-б ня крыўдзіла

Дамаганьні нашыя вельмі слушныя ды невялікія. Калі духоўныя ўлады іх ня споўняць, то беларусы яшчэ больш упэўняцца ў тым, што „там гавораць адно, думаюць другое, а робяць трэцяе".



## Японія ў лічбах.

У XIX веку эўрапэйцы на чале з ангельцамі загарнулі ў свае рукі ўсе рынкі Азіі, а ў сучасны мамэнт Японія пагражае загарнуць у свае рукі амаль ўсе рынкі цэлага сьвету.

У 1853 годзе японцы амаль ня мелі свайго марскога флёту, а у 1905 г. (28 мая) адмірал японскага ваеннага флёту Того амаль зусім зьнішчыў пад Цусімай пераважаючы расейскі флёт.

У 1875 г. японцы мелі толькі 149 караблёў, а ў 1927 г. мелі іх ужо 4205 з тоннажам звыш 45 мільёнаў тоннаў. У 1870 г. ў Японіі была толькі адна тэлеграфная лінія паміж Токіо і Іокагамаю, а ў сучасны мамэнт Японія налічвае 1.177.312 тэлефонных апаратаў.

У 1860 г. выйшла ў Японіі першая газэта, а ў сучасны мамэнт выходзіць 1280 часопісаў, ёсьць 4609 публічных бібліятэкаў з 10.000.000 кніжкамі ды 23.500.000 чытачамі.

У 1850 г. японцы амаль што зусім ня мелі школаў, а ў 1932 г. было 26.000 пачаткавых школаў, 557—сярэдніх. 105—вучыцельскіх сэмінарыяў, 46 — унівэрсытэтаў, 975—вышэйшых жаночых школаў, 876 — прафэсыянальных, 74 школы для сьляпых ды 51 школа для глуханямых. Школьнае моладзі ўва ўсіх гэных школах налічваецца 12.500.000.

У 1868 годзе заложана першая ткацкая фабрыка, а ў 1931 г. павінны былі зьліквідавацца некаторыя швайцарскія фабрыкі гадзіннікаў, бо не маглі вытрымаць конкурэнцыі з японскімі.

У 1932 годзе зьліквідавалася шмат электрычных фабрыкаў у Аўстрыі, Нямеччыне і Галяндыі, бо японцы пачалі прадаваць свае электрычныя лямпачкі шмат таней. Выпусьцілі ў 1929 г. электр. лямпачак каля 100 мільёнаў штук, а ў 1932 г. — 274 мільёны штук.

І так ува ўсіх галінах культуры, тэхнікі, промыслу і г. д.

Паўстае пытаньне, чым выклікаsuccessfully так магутны рост Японіі? Зразумела, ня толькі вонкавымі абставінамі, а перадусім унутранымі—магутнасьцяй волі і духу японскага народу. Безгранічная любоў да бацькаўшчыны, арганізацыйная здольнасьць, салідарнасьць, самаахвярнасьць, гранічачая з героізмам, гарт волі і духу, вытрываласьць — вось тыя рыскі характару японскага народу, якія паднялі яго на такую вышыню ў так кароткі час!

*Беларусы, вучэцеся ад японцаў!*

## Уваружоныя сілы Нямеччыны

Ад часу пераходу да агульнай вайсковай павіннасьці, уваружоныя сілы Нямеччыны складаюцца з арміі, ваеннага і паветранага флёту.

Галоўным камандзірам уваружоных сілаў фармальна лічыцца канцлер Гітлер, у сапраўднасьці-ж абавязкі галоўнага камандзіра поўніць ваенны міністар, якому непасярэдна падпарадкаваны камандзіры арміі і флёту.

Ваеннаабавязанымі лічацца ўсе нямецкія падданыя мужчыны ад

18 да 45 гадоў. У часе вайны да адбываньня вайсковай павіннасьці пацягаюцца ня толькі мужчыны, але і жанчыны.

Вайсковая служба дзеліцца на актыўную службу і стан у водпуску.

На актыўнай службе лічацца: 1) усе ваеннаабавязаныя, маючыя 20 гадоў і адбываючыя вайсковую павіннасьць, 2) усе афіцэры і пад-афіцэры, якія пасьля выслугі абавязковай службы астаюцца дабравольна ў арміі, 3) вайсковыя ўрадоўцы, якія пасьля выслугі абавязковай службы не залічаюцца ў водпуск і 4) усе прызваныя з водпуску ў армію на вайсковае вучэньне або з іншай прычыны.

Асобы, знаходзячыяся ў водпуску, пасьля выслугі абавязковай, залічаюцца ў рэзэрву, якія не адбывалі службы — у запас рэзэрвы, дзе яны знаходзяцца да 35-х гадоў, а потым пералічаюцца ў ляндвэр. Пасьля 45-х гадоў ваеннаабавязаныя пералічаюцца ў ляндштурм, скуль могуць быць прызваны на ваенную службу па распараджэньню ваеннага міністра.

Ваеннаабавязаныя рэзэрвы, запасу і ляндвэру што год адбываюць вучэбныя зборы.

Срок службы у войску — 12 месяцаў, але ў марскім і паветраным флёце будуць служыць зьверхсрочныя, служба якіх будзе цягнуцца 4 гады.

Уся Нямеччына дзеліцца на 9 ваенных акругоў (10 ы вокруг у выдзеленым горадзе Гамбургу), у кожным з іх знаходзіцца некалькі камплектовачных інспэкцыяў з падзелам на камплектовачныя раёны — усяго ёсьць 24 інспэкцыі і 123 раёны.

Сухапутная нямецкая армія дзеліцца на 3 вайсковыя групы, штабы якіх знаходзяцца у Бэрліне, Кассэле і Дрэздэне.

Паветраныя вайсковыя сілы дзеляцца на 6 акругоў, штабы якіх знаходзяцца ў Кэнігсбэргу, Бэрліне. Дрэздэне, Мюнстры, Мюнхэне і Кіле.

Ваенна-марскія сілы дзеляцца на Балтыцкі флёт з цэнтрам у Кіле і флёт Паўночнага мора з цэнтрам у Вільгэльмсгафэне.

Перад прызывам на вайсковую службу моладзь адбывае трудавую павіннасьць, дзе падгатаўляецца да вайсковай службы, прычым тут галоўная ўвага зьвернена на тое, каб з маладога немца зрабіць нацыянал-соцыяліста.

Чын камандзіра, па новаму закону, могуць атрымаць толькі асобы арыйскага паходжаньня (ня сэміты). Асобы, абвінавачаныя ў шкоднай для дзяржавы дзейнасьці, на вайсковую службу ня прымаюцца. Нямецкія падданыя, пражываючыя заграніцай, або маюць адсрочку, або могуць быць звольнены ад вайсковай службы, але не звальняюцца ад вайсковай павіннасьці, г. зн. ад службы ў нямецкай арміі ў часе вайны.

Вайсковыя, як салдаты, так і афіцэры, ня могуць займацца палітыкай, ня прымаюць учасьця ў выбарах; да арганізацыяў могуць належыць толькі з дазволу сваіх начальнікаў.

Каб павялічыць кадры афіцэраў запасу, зроблена шмат палёгкаў у праве здабыцьця гэнага званьня асобам, маючым скончаную агульную тэхнічную асьвету.

У сучасны мамэнт Нямеччына мае сільную армію з добрымі тэхнічнымі вайсковымі прыладамі.

*К.*

## З працэсу аб забойстве міністра Перацкага.

Адкрыўшы паседжаньне суда 14-га сьнежня, прэзэс заяўляе, што ў суд паступіла просьба д-ра Яна Мосдорфа, каб выслухаць яго паказаньні, як сьведкі. Пракурор Жэленьскі прапануе выслухаць д-ра Мосдорфа, суд прыхіляецца да гэтага і сьведка Я. Мосдорф зьяўляецца ў залю суда. Староны згаджаюцца на яго паказаньні бяз прысягі. Д-р Мосдорф заяўляе, што па прафэсіі ён публіцысты, жыве ў Варшаве. 13-га чэрвеня 1934 г. ўладамі закрыта была друкарня „Штафэты“—органу нацыянальна-радыкальнае групы, якім кіраваў сьведка. Ён пачаў рабіць стараньні, каб адпячатаваць друкарню. Адна асоба, прозьвішча якое д-р Мосдорф ня хоча называць, казала яму, што яна гаварыла з вельмі аўторытэтнаю ў дзяржаве асобаю і даведалася ад яе, што прычынаю рэпрэсіяў проці „Штафэты“ была антыжыдоўская дзейнасьць нацыяналь-радыкалаў. Гэта высокапастаўленая асоба вядала, што ў справе антыжыдоўскіх выступленьняў д-р Мосдорф трымаецца зусім іначай. Дзеля гэтага, паводле слоў гэтае аўторытэтнае асобы, рэпрэсіі былі-б узяты назад, калі-б былі гарантыі, што група нац.-радыкалаў ня ўладжвае антыжыдоўскіх разрухаў. Сьведка сказаў тады таму, з кім гаварыў, што ў цяперашнім палажэньні ён ня можа вясьці перагавораў і зазначыў, што нац·рад. група ня ўладжвала разрухаў і заклікала да спакою на шпальтах „Штафэты“. 14-га чэрвеня д-р Мосдорф быў паведамлены сваім учарашнім размоўцаю праз тэлефон, што высокая асоба паразумеецца ў справе „Штафэты“ з міністрам Перацкім і калі міністар будзе сумлявацца, дык пазвоніць сьведцы ў тэлефон. Да 10 гадз. ўвечары тэлефону ня было. Позна ўвечары ў кватэры д-ра Мосдорфа адбылася зборка кіраўніцтва нац.-радык. групы і было пастаноўлена зьвярнуцца да мін. Перацкага дзеля высьвятленьня справы. 15-га чэрвеня а 1 гадз. 30 мін. удзень сьведка гаварыў з пам. сэкрэтара міністра, каторы сказаў, што міністар заняты на зьезьдзе ваяводаў і пра аўдыенцыю сягоньня няма нават магчымасьці ў міністра спытацца. Праз гадзіну, на паўторнае пытаньне тэлефонам, сэкрэтар міністра адказаў, што сягоньня і заўтра міністар заняты. Сьведцы здавалася, што міністар ня хоча адмовіць у аўдыенцыі, а хоча перанясьці яе на адзін з дзён будучага тыдня. Тады сьведка падзякаваў сэкрэтару, сказаўшы: „То ўжо няварта“. Сьведка цьвердзіць, што вельмі добра помніць усю размову і што ён не казаў тады: „То ўжо будзе запозна“.

Д-р Мосдорф, з мамэнту свае тэлефоннае размовы з сэкрэтаром міністра ўнутраных справаў (15. VI. 1934 г.), увесь час прабываў у Польшчы. На пытаньне пракурора Рудніцкага, — чаму сьведка не зьявіўся раней, — д-р Мосдорф тлумачыць, што на гэта зложылася некалькі прычынаў. Атрымаўшы каля гадзіны 4.30 тэлефонную вестку, што міністар Перацкі застрэлены, д-р Мосдорф з'арыентаваўся, што ў мамэнт агульнага абураньня яго тэлефонная размова магла быць пастаўлена ў сувязь з забойствам і вытлумачана ў кірунку, шкодным для нацыяналь-радыкальнае групы, калі-б ён тады быў дапытаны сьледчымі ўладамі.—Я выйшаў з дому, — кажа д-р Мосдорф,—а 5 гадз., а ў 8 гадз. прыбыла ў маю кватэру паліцыя і прабыла там 3 дні без перарыву; я ніякага вызаву не атрымаў і толькі асьпірант паліцыі Броговскі сказаў маёй матцы, каб я з ім паразумеўся, як толькі вярнуся дамоў. Аб самай справе я нічога ня ведаў, бо сьледзтва было трымана ў поўнай тайне. Я добра разумеў, што калі зьяўлюся, дык павінен буду застацца ў сьледзтве прынамсі паўгода ў арышце, пакуль уся справа выясьніцца. Дзеля гэтага я пастанавіў хавацца. Аднак-жа апошнім часам паказваўся ў Варшаве адкрыта ў публічных месцах. Учора даведаўся з газэтаў аб називаньні мае асобы ў працэсе і дзеля гэтага зьявіўся ў суд.

Затым даваў паказаньні начальнік аддзелу публічнае бясьпечнасьці ў М. У. Справаў Вацлаў Зыборскі.

На чарговым паседжаньні суда выслуханы былі паказаньні сьведкі Сухэнка-Сухэцкага, начальніка дэпартамэнту меншасьцяў у міністэрстве ўнутраных справаў. Сьведка, супрацоўнічаўшы з мін. Перацкім цэлы рад гадоў, паказаў паміж іншым, што нябошчык як найлепш орыентаваўся ў украінскім пытаньні, адносіўся да ўкраінскае меншасьці з вялікім разуменьнем яе патрэбаў і нямала рупіўся, каб ненармальныя адносіны ўва Усходняй Галічыне былі нарэшце ўпарадкаваны.

У канцы паседжаньня суда 18-га сьнежня абарона прабавала дамагацца паклікаsuccessfully ньня ў суд, як сьведкаў, нямецкіх міністраў вайсковых справаў і ўнутраных справаў, але суд адкінуў гэту прапазыцыю, як выразна дэмонстрацыйную. Пасьля гэтага прэзэс суда абвясьціў перарыў да 27 сьнежня.

27 студня 1935 г. Пракурор Жэленьскі падаў суду дакумэнт з міністэрства ўнутраных справаў, у якім сказана, што галава ОУН палкоўнік Канавалец 10 сьнежня выехаў з Швайцарыі, на дамаганьня

---

**І д э.**

# Сьвяточны фільм.

*„Праз шкло бутэлькі“.*

Пасьля сьвятаў нельга пісаць фэльетон Фэльетон — за слаба, за бледна, за вяла.

Я накруціў фільм і назваў яго „Сьвяточным“, бо ў ім будуць паказаны Сьвяты. Хоць ён напісаны пасьля сьвятаў, у ім яшчэ чытач знойдзе сьвежыя ўражаньні.

Абразы будуць зьмяняцца з амэрыканскай хуткасьцю.

Фільм — каляровы. У ім — розныя хварбы, пачынаючы ад колеру чорных касьцюмаў, праз колер чырвонай крыві да колеру белай гарачкі.

Фільм — гукавы. Ён складаецца з словаў, а словы — з гукаў. Апрача гэтага будзе адпаведная музыка.

Увага! Пачынаем!

——

Іграе беларуская плыта „Лявоніха“. Настрой, тэмп, і — наагул, адным словам.

— Бім — бім — бім...

21 гадзіна.—Заўтра Новы Год...

А ён называецца, напрыклад, Антон, а па прозьвішчу, ну, — Бядулькін. Ходзіць сабе Антошка і пасьвістывае.

А пасьвістывае ён таму, што жонка з места ніяк ня прыходзіць. Тут ужо 21 гадзіна, уся вясёлая кумпанія ўжо можа недзе тосты, так сказаць, гаворыць, а ён — ліха ведае што — жонкі чакае.

Мінаюць даўгія мінуты.

Бедны Антоша Бядулькін нэрвуецца і пачынае памалу лаяцца.

Урэшце прыходзіць жонка і ў зьнемажэньні падае на канапу.

Бядулькін прарываецца і пачынае прамову, на якую жонка адказывае плачам з прычытаньнем:

— А я нешчасьлівая, а я бедная, штомужа такога маю, а я змучаная, а я не магу ног падняць...

Сытуацыя, як кажуць, загострываецца і пачынаецца драма.

Антоша ніяк ня можа ўзьдзець цьвёрды каўнерык, матае шыяй, цягае гальштук, кіпіць са злосьці, і ўрэшце сядае зьняможаны на крэсла...

Жонка пачынае маляваць губы, а Антоша, спацеўшы, стаіць у пальце ў кухні, курыць, плюецца і лаецца.

І роіцца яму бясклопатная вясёласьць і радасьць прыяцеляў — музыка—тосты — У гэты сэнтымэнтальны мамэнт гадзіньнік б'е дванаццаць.

— Цьфу! — глуха выбухае Антоша і ў пальце кідаецца на канапу. Ен грызе губы, іграе скуламі і бліскае вачыма. Ен перажывае.

І ў гэтую якраз хвіліну выходзіць жонка, гатовая да выхаду.

Канец усяго — ясны.

——

Плыта — „Чамуж мне ня пець“ Ужо вечарэе. У вакне — прыгожая сінь. У куце — ёлка, асыпаная берталетавай сольлю, абцягнутая ватай і прыбраная рознымі бліскучкамі... За вакном — сьнег.

Зараз прыйдуць госьці. Кіпіць работа. Зьліваюцца ў графіны розныя „сьпірытуаліі“, нарэзваецца каўбаса, адчыняюцца шпроты.

Гаспадар, ужо „пад газам“, прымае гасьцей.

Ен пачынае цалавацца і прапануе адразу паглядзець альбом.

Альбом, у якім усяго з 20 фатаграфіяў, глядзяць і праглядаюць нешта каля гадзіны.

Тады засьцілаюць стол і настаўляюць розныя прысмакі.

Запальваецца ёлачка. Усё ў найлепшым парадку.

Першыя чаркі ідуць паволі.

Паршыя гутаркі стрыманыя і паважныя. Першыя рухі вытрыманыя і абліцаныя. Першыя погляды нясьмелыя і сымпатычныя.

А пасьля?...

Госьці забіраюцца ў кухню і выцягваюць схаваную вішнёўку, гаспадар ляжыць на канапе, у хаце, як пасьля нападу татараў...

Вечар канчаецца ў хрысьціянскім спакоі, бяз ніякіх прыкрасьцяў.

Калі ў каго заліты касьцюм, падпалена ад ёлкі сукенка, то гэта, зразумела, такое глупства, што над ім ня варта і спыняцца.

——

Плыта „Эх, яблычка“

Пагода можа быць абыякая.

Можна прыняць пагоду па прадсказаньням радыя: „захмуранасьць з праясьненьнямі“.

У вясёлую кумпанію трапляе „вясёлы чалавек“. Ен робіцца душой усяго вечару. Што было-б, каб яго ня было...

— Хэ-хэ-хэ так-гм-ага-ну-ну.

Ей у часе сваіх жартаў энэргічна працуе сківіцамі.

Гарэлка добрая — хэ-хэ— гм— ага ну-ну.

— А вы, калі ласка, філе — зьвяртаецца да яго гаспадыня.

— Дзякую. Ведаеце, я хоць і ня ведаю такое назовы, але прызнаюся, што смачна.

— Гэта — паляндвіца — паясьняе гаспадыня.

— А-ха-ха-ха—так гм.

„Вясёлы чалавек“ выпівае, закусывае, ён задаволены і ім задаволены.

Ён—ня мае часу. Ён сьпяшае на цягнік.

— Бывайце —

„Вясёлы чалавек“ наматывае шалік на шыю, набівае чужыя калёшы, хапае нечый капялюш з вешалкі і выбягае.

Ен шукае блёк-нотэс, чытае наступны адрэс, падпёршыся аб тэлеграфны слуп.

— Ізвошчык!

— ...вуліца, дом пяць, кватэра дваццаць адзін!

Ізвошчык з „вясёлым чалавекам“ уносіцца ў сьнежную даль, з якой доносяцца гукі песьні:

„Слышен звон бубенцов“...

——

Плыта — „Начныя мышы“ На вуліцах абавязкавы зьмрок. А на рагу вуліцы мусяць стаяць „тыпы“ ў даўгіх польтах з каляровымі шалікамі і біць першага-лепшага „па мордзе“. Той хто адгрызаецца, дастае двайную порцыю. Хто бароніцца, вяртаецца да хаты цьвярозы або і з плястырам.

Гэта проста—сьвяточны спорт.

Канчаецца паліцыяй, але „тыпы“—гінуць у змроку, як начныя мышы.

